№ 70 (4117)

9 верасня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не застаньцеся без «Народнай Волі» ў кастрычніку–снежні!

Нагадваем: многім з Вас, шаноўныя чытачы, трэба прадоўжыць падпіску на IV квартал. Не спазніцеся!

**Вы – з “Народнай Воляй”,**
**“Народная Воля” – з Вамі!**

СКАЗАНА!



## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*“У краіне пачалося датэрміновае галасаванне. Я хацеў бы звярнуць і вашу ўвагу, і тых, хто арганізоўвае выбары, адказвае за іх на месцах, каб не было ў нас нічога штучнага, каб мы не гналі людзей на выбары, каб мы годна іх правялі...”*

*(З размовы са старшынёй Цэнтрвыбаркама Л.Ярмошынай 6 верасня.)*

*“Народная Воля” вырашыла праверыць, як выконваецца ўказанне А.Лукашэнкі наконт таго, што не трэба гнаць людзей на выбарчыя ўчасткі, гэта іх асабістая справа – прымаць удзел у галасаванні ці не. Вось рэпартаж з некалькіх студэнцкіх інтэрнатаў, дзе адкрыліся ўчасткі для датэрміновага галасавання.*

# Студэнты штурмуюць выбарчыя ўчасткі



Першым на чарзе быў участак для галасавання №637, размешчаны ў блоку абслугоўвання пры інтэрнатах БНТУ (праспект Незалежнасці, 146 б). Звярнуць на яго ўвагу параіў **Дзяніс Садоўскі**, каардынатар кампаніі “Права выбару-2016”. Бо менавіта там назіралася найбольшае разыходжанне паміж афіцыйнымі дадзенымі і дадзенымі незалежных назіральнікаў. Згодна з афіцыйным пратаколам, у першы дзень датэрміновага галасавання свайго кандыдата абралі 928 чалавек (усяго на ўчастак было вылучана 2100 бюлетэняў). Але, як расказаў “Народнай Волі” назіральнік **Віктар Кулак**, ён і яго калега налічылі максімум 500 чалавек.

Пакой для галасавання абсталяваны ў зале аэробікі. Але застацца там і паназіраць не так лёгка. Пільнаму **Анатолю Шабельніку**, намесніку дэкана факультэта энергетычнага будаўніцтва БНТУ, які з’яўляецца старшынёй камісіі, не падабаецца пасведчанне карэспандэнта. Таму чыноўнік тэлефануе ці то ў Цэнтрвыбаркам, ці то камусьці са сваіх начальнікаў, дзе ўрэшце даюць згоду.

У памяшканні галоўнае месца займае тэлевізар, які на поўную гучнасць працуе амаль гадзіну, пакуль я знаходжуся на ўчастку. На экране ідзе адна са шматлікіх перадач кшталту “Пусть говорят”. Сябры камісіі з цікавасцю сочаць за лацінаамерыканскімі жарсцямі: героі не могуць падзяліць сына і разабрацца са сваім асабістым жыццём. А вось плакатаў з інфармацыяй пра патэнцыяльных абраннікаў народа ў пакоі няма: яны размешчаны на першым паверсе.

Паток студэнтаў не спыняецца ні на хвіліну. Адзін з хлопцаў, апрануты ў спартыўны касцюм, ледзь не выдае ўсе таямніцы мадрыдскага двара, наўпрост спытаўшы ў прадстаўнікоў камісіі: *“Што вы ўсё тэлефануеце, турбуецеся?”* У нейкі момант за дзвярыма ўзнікае чарга. Калі студэнтаў запытваюць, чаму ніхто не заходзіць, найбольш дасціпны каментуе: *“Можа, ніхто дадому не хоча”*. За гадзіну перада мной праходзіць некалькі дзясяткаў студэнтаў. Як пазней высвятляецца, за дзень на ўчастку прагаласавала 373 чалавекі. Гэтым разам афіцыйныя лічбы і вынікі незалежнага назірання супалі. Магчыма, на тое паўплывала ўвага да ўчастка.

Далей я скіраваўся на ўчастак для галасавання №251, які заходзіцца ў адным з інтэрнатаў БДУ (праспект Дзяржынскага, 87). Там назіраецца поўны аншлаг. Чарга ў запаветны пакой займае ўвесь калідор – у чаканні стаяць каля дваццаці чалавек! Каб трапіць да урны, даводзіцца чакаць хвілін дзесяць. Некаторыя студэнты нават сыходзяць, абяцаючы прыйсці пазней.

У самім пакоі вольных месцаў няма: члены камісіі, два назіральнікі, дзве кабінкі для галасавання. Збоку ствараецца ўражанне, што назіраеш працу заводскага канвеера, які без перапынку штампуе бюлетэні. На гэтым участку ў першы дзень датэрміновага галасавання прагаласавалі 434 чалавекі. Нявыкарыстаных бюлетэняў засталося крыху больш за 600.

Дзяўчаты ў чарзе, з якімі я разгаварыўся, не хаваюць, што за датэрміновае галасаванне ім паабяцалі на некалькі дзён адпусціць дадому. Мае суразмоўцы ставяцца да галасавання з гумарам. Напрыклад, некалькі дзяўчат вырашаюць галасаваць за кандыдата, які летась не працаваў, таму не зарабіў ні капейкі. Аргумент жалезны: *“У яго ж нічога няма”*. Адна з сябровак выбірае патэнцыяльнага дэпутата, якога бачыць упершыню на партрэце, выключна па знешніх дадзеных.

Побач знаходзіцца ўчастак для галасавання №249, які працуе ў інтэрнаце №1 Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Там могуць прагаласаваць студэнты адразу чатырох ВНУ: БДУІР, БНТУ, Лінгвістычны і Акадэмія музыкі. Тут пануюць цішыня і спакой. Ціха гучыць фонавая музыка, адна з назіральніц правярае школьныя сшыткі. Старшыня камісіі без пытанняў запісвае інфармацыю з журналісцкага пасведчання і нават прапануе выбраць больш зручнае месца, каб зрабіць фотаздымак. За паўгадзіны на ўчастку галасуюць 15 чалавек. Назіральніца ад Хельсінкскага камітэта **Аляксандра Кузьміч** расказвае, што з такой жа хуткасцю наведвальнікі ідуць цэлы дзень. Прычым, паводле яе сцвярджэння, яна на ўласныя вочы бачыла студэнтаў, якія прыходзілі на галасаванне ў піжамах. У першы дзень на ўчастку прагаласавалі 162 чалавекі, нявыкарыстанымі засталіся 1938 бюлетэняў.

У сваім “Твітары” Аляксандра расказвае гісторыю, якой з ёй падзяліліся студэнты БДУІР. Нібыта па адным з інтэрнатаў хадзіла педагог-арганізатар і прасіла прагаласаваць: *«Калі ласка, зразумейце і пашкадуйце цяжарную жанчыну! Мне ж заўтра прынясуць спісы тых, хто не прагаласаваў»*.

Гэтая гісторыя сімвалічная. Хтосьці абураецца датэрміновым галасаваннем, хтосьці ставіцца да яго з гумарам як да непазбежнасці. Але агучваць сваё абурэнне публічна ніхто не збіраецца. Часцей за ўсё адказам на пытанні карэспандэнта “Народнай Волі” было маўчанне (або студэнты казалі пра добраахвотнае жаданне з’ехаць дадому). Таму звычайны навучэнец беларускай ВНУ, нават калі моўчкі пратэстуе… ідзе датэрмінова галасаваць.

**Вадзім БРОННІКАЎ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## В ближайшее время Юрий Чиж может выйти на свободу

*Владелец группы компаний “Трайпл”, похоже, начал погашать ущерб. “Процесс сдвинулся с мертвой точки, медленно движемся”, – сказали “Народной Воле” адвокаты, которые работают по этому делу.*

Пока все фигуранты громкого дела ждут, что в самое ближайшее время станет ясно, дойдет ли дело Юрия Чижа и тех, кого арестовали вместе с ним, до суда. Поскольку Чиж и компания уже начали активно распродавать бизнес (заложен даже центральный офис “Трайпла”, который находится на проспекте Победителей), собирать деньги и погашать долги, скорее всего в самом ближайшем времени они окажутся на свободе. Причем из СИЗО они выйдут даже не под домашний арест. Первое время – наверняка под подписку о невыезде. А затем...

Если Юрий Чиж полностью погасит инкриминируемый ему ущерб и напишет на имя А.Г.Лукашенко прошение о помиловании, на которое будет дан позитивный ответ, судебного разбирательства не будет. Бизнесмен с полупустыми карманами снова окажется свободным человеком.

Напомним, что, по данным Следственного комитета, бизнесмену и его компаньонам инкриминируется уклонение от уплаты налогов, что нанесло государству вред в размере около 12 миллионов долларов. Стоимость проданных за последнее время объектов, которые раньше принадлежали Чижу, уже в несколько раз превышает эту сумму.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



## Алег ЖУРКЕВІЧ: «На Эдуарда Занкаўца ў нас вялікія спадзяванні»

*Учора вядомы беларускі хакейны спецыяліст узначаліў клуб “Барыс” з Казахстана.*

Да апошняга часу былы галоўны трэнер зборнай Беларусі працаваў скаўтам амерыканскага клуба НХЛ “Чыкага Блэкхокс”, але днямі ХК “Барыс”, які выступае ў Кантынентальнай хакейнай лізе, афіцыйна абвясціў: *“З 7 верасня да абавязкаў галоўнага трэнера каманды прыступае беларускі спецыяліст Эдуард Занкавец”*.

Дарэчы, беларус на гэтай пасадзе змяніў скандальна вядомага **Андрэя Назарава**, які ў свой час “адзначыўся” і ў Мінску. У 2011 годзе падчас матча мінскага “Дынама” і падмаскоўнага “Віцязя” не толькі адбыліся бойкі хакеістаў на лядовай пляцоўцы, але і настаўнік гасцей схапіў клюшку і стараўся ўдарыць беларускіх балельшчыкаў. Затым Назараў са скандалам сышоў з піцерскага СКА, такую ж славу ён паспеў займець і ў “Барысе”.

У выніку клуб з Казахстана на старце чэмпіянату КХЛ на апошнім радку ў сваёй канферэнцыі, а кіраўніцтва “Барыса”, відаць, вырашыла змяніць расійскага скандаліста на больш талковага і памяркоўнага беларуса.

– Безумоўна, на Эдуарда Занкаўца ў нас вялікія спадзяванні, – распавёў “Народнай Волі” прэс-сакратар ХК “Барыс” Алег ЖУРКЕВІЧ. – Яго кантракт з клубам разлічаны на адзін год. Задача – патрапіць у плэй-оф.

**– Ужо 9 верасня “Барыс” на чале з новым трэнерам правядзе дамашні матч з “Югрой”…**

– Як кажуць, з карабля – на баль. Натуральна, што за дзень-два настаўніку цяжка нешта змяніць у камандзе, але ўсе мы спадзяёмся зараз на лепшую гульню і лепшыя вынікі.

**Алесь СІВЫ.**

СТАЛА ВЯДОМА...

## Вяртанне Максіма

*Вядомы беларускі тэнісіст пасля гадавога перапынку вярнуўся ў склад зборнай Беларусі.*

Максім Мірны возьме ўдзел у матчы Кубка Дэвіса з тэнісістамі Даніі, які адбудзецца ў Мінску 16–18 верасня. Дарэчы, упершыню тэнісіст згуляў за зборную Беларусі ў 1994 годзе і з таго часу браў удзел у 47 матчах каманды ў Кубку Дэвіса.

Пераможца сустрэчы Беларусь–Данія атрымае права ў наступным сезоне згуляць у першай групе Еўра-Афрыканскай зоны розыгрышу Кубка Дэвіса.

РАЗБОР ПАЛЁТАЎ

## Алесь ЛАГВІНЕЦ: «Мала хто верыць, што выбары могуць нешта змяніць»

*Ці можна гэтыя выбары назваць свабоднымі і дэмакратычнымі? Яе ідзе датэрміновае галасаванне? Чаму назіральнікам на выбарчых участках не дазваляюць усталёўваць відэакамеры? Ці трапяць прадстаўнікі апазіцыі ў Палату прадстаўнікоў? Пра гэта і не толькі – размова з намеснікам старшыні руху “За Свабоду!”* ***Алесем Лагвінцом***.

**– Алесь, вы з’яўляецеся назіральнікам на адным з выбарчых участкаў, дзе старшынствуе бізнесмен Павел Тапузідзіс. Знайшлі з ім агульную мову?**

– Па-за пытаннямі выбараў у нас ветлівыя і, можна сказаць, прыязныя размовы як са спадаром Тапузідзісам, так і з членамі камісій і назіральнікамі, якія ўсе з аднаго прадпрыемства – “Табак-інвест”. Можна сказаць, што я патрапіў на своеасаблівы трэнінг па палітычнай камунікацыі, дзе абмяркоўваюцца самыя розныя пытанні. Мне цікава паслухаць меркаванні людзей, якія працуюць у беларускім бізнесе, давесці ім сваю пазіцыю. Бачыце, як назіранне спрыяе дыялогу ў грамадстве. У прынцыпе, мае суразмоўцы пагаджаюцца, што дыскусіі такога кшталту пра палітыку павінны быць рэгулярнымі на дзяржаўным тэлебачанні, а не 2–3 разы пад так званыя выбары.

**– Ведаю, што вы з Паўлам Тапузідзісам нават зрабілі супольны здымак. Цікава, хто быў ініцыятарам?**

– Мне прапанавалі, я пагадзіўся. Чаму б і не? Мы ўсе ў адным чоўне пад назвай *Беларусь*. Так ці інакш, наступіць момант, калі нам трэба будзе дамаўляцца і будаваць агульнанацыянальны кансэнсус па ключавых пытаннях развіцця краіны.

**– Амаль адразу вы накіравалі пісьмовы зварот наконт таго, каб скрынку для галасавання на вашым участку апячаталі знізу. На якой падставе вам адмовілі?**

– Я, зразумела, знаходжуся на ўчастку і назіраю за тым, каб выконваліся цывілізаваныя стандарты свабодных і справядлівых выбараў. Нішто не перашкаджае камісіі зрабіць так, каб было менш падазрэнняў і пайсці насустрач прапановам назіральніка. У маім выпадку гэтага не зрабілі, а пісьмовы адказ далі на наступны дзень: маўляў, выбарчае заканадаўства гэтага не прадугледжвае. Яшчэ я прапаноўваў дазволіць мне ўсталяваць камеру, якая ўвесь час здымала б урну для галасавання. Але мне таксама адмовілі. Праўда, на гэты раз – вусна. Відаць, ёсць што хаваць. У кожным разе такімі крокамі давер да выбарчага працэсу не пабудуеш.

(Працяг на 2-й стар.)

ЧУЛІ?

## У Мінску даўжнікоў па камуналцы пачалі шукаць праз сацсеткі

Гэты спосаб выкарыстоўваецца ў выпадках, калі няма іншых магчымасцяў звязацца з жыхарамі, у якіх утварылася запазычанасць больш як за адзін месяц.

*“Чалавек не адказвае на званкі на хатні тэлефон, не адчыняе дзверы ў кватэру, нідзе не працуе афіцыйна*, – цытуе агенцтва “Мінск-Навіны” галоўнага спецыяліста філіяла **Элу Лазараву**. – *Ці наўмысна хаваецца, ці некуды з’ехаў. Апошняе становіцца больш верагодным, калі суседзі кажуць, што даўно яго не бачылі. У такіх выпадках пачынаем шукаць даўжніка праз сацыяльныя сеткі. І многіх знаходзім... Галоўнае, каб запазычанасць была пагашана, а меры, што прымаюцца ў гэтым напрамку, не супярэчылі заканадаўству*”.

СІТУАЦЫЯ

## Пяць гадоў – за талон?

У Баранавічах дзве жанчыны-кантралёры паведамілі ў міліцыю, што канфлікт узнік з-за талона, які, на іх думку, быў прабіты некалькі разоў. Пасажыр сцвярджаў адваротнае. У выніку патасоўкі хлопец падрапаў рукі кантралёрам, парваў адзенне і збег. Праўда, праз нейкі час яго знайшлі.

У адносінах да хлопца ўзбуджана крымінальная справа за гвалт у адносінах да асобы, якая выконвала службовыя абавязкі. Калі яго віна будзе даказана, маладому чалавеку пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

ПАД ГРАДУСАМ

## Лета пакуль не сыходзіць

У ***суботу*** без ападкаў. Тэмпература ўначы – +7…+14°С, у паўночна-ўсходніх раёнах +4…+6 °С. Днём чакаецца +20…+27°С, па паўднёвым захадзе паветра прагрэецца да +29°С.

У ***нядзелю*** таксама без ападкаў. Ноччу – +9…+16°С, днём – +22…+29°С.

Будзе пераважна без ападкаў, толькі ў ***панядзелак,*** 12 верасня, днём месцамі па паўночнай палове краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы.

Тэмпература паветра ў начны час складзе +10…+16°С, удзень чакаецца +22…+28°С, па паўднёвым захадзе – да +30°С.

